

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№91(604) 14 мая 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618816 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**Вчера в московской штаб-квартире главного командования ОВС СНГ началось заседание Совета министров обороны стран Содружества.**

В повестке заседания — три вопроса, связанных с углублением военного сотрудничества, которые сегодня будут вынесены на встречу в верхах.

❑

**С 25 по 28 мая в Минске, в военном городке Уручье, будет проходить первая в республике выставка "Оборонная промышленность и конверсия-93".**

В выставке примут участие "зубры" белорусской "оборонки", такие, как ПО БелОМО, МТЗ, БелавтоМАЗ, НПО "Агат", НИИ ЭВМ.

❑

**В Союз предпринимателей Беларуси поступило официальное письмо от словацкой ассоциации "Словекс".**

Письмо содержит предложение организовать и провести в Минске встречу белорусских и словацких бизнесменов.

❑

**С 24 по 29 мая в Минске пройдет XV Менделеевский съезд по общей и прикладной химии и химическим проблемам экологии.**

Гостями съезда станут ученые из Японии, США, Италии, Германии, Канады, Англии, Польши.

### За беспорядки ответит комиссия

**Президент России Б.Ельцин назначил премьер-министра В.Черномырдина председателем государственной комиссии по выяснению обстоятельств и причин событий, имевших место 1 мая этого года в Москве.**

Целью создания комиссии является также выработка мер по предотвращению возможных негативных акций экстремистских политических сил, укреплению законности и правопорядка. Комиссии предложено представить свое заключение в десятидневный срок.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Вроде они есть, а вроде и нет

**Чеченский парламент принял решение освободить президента республики Д.Дудаева от обязанностей главы правительства и назначил премьер-министром Е.Мамедова.**

Дудаев назвал это решение незаконным и намерен продолжать свою деятельность в полном объеме. Об этом сообщил вчера корреспонденту радио "Свобода" заместитель министра информации Чечни Ш.Пашаев. По его словам, депутаты были не вправе принимать такое решение, так как деятельность парламента приостановлена указом президента в середине апреля этого года.

### Пороховой дым развеивается?

**Бои между мусульманами и хорватами в Мостаре, на юге Боснии и Герцеговины, утихли перед вступлением вчера в полдень в действие соглашения о прекращении огня.**

Соглашение предусматривает возвращение враждующих сил в свои казармы, свободу передвижения для всех сил ООН и сотрудников международных гуманитарных организаций, а также освобождение пленных.

### Спорт-экспресс

На минском стадионе "Динамо" состоялся товарищеский матч между сборными Беларуси и Молдовы. К великому разочарованию белорусских болельщиков, победили гости — 1:0.

❑

Обладателем европейского Кубка кубков по футболу стала итальянская команда "Парма", победившая в финальной встрече на стадионе "Уэмбли" обидчика московского "Спартака" — бельгийский "Антверпен". Счет — 3:1.

❑

В субботу и воскресенье поведут спор за золотые награды первенства Беларуси по гандболу мужские команды СКА-1 и СКА-2. Кроме медалей победители получат еще и автомобиль "Форд".

### Включите шестой микрофон!

**Бессрочную забастовку объявили работники технических служб палаты депутатов Национального конгресса Бразилии.**

Как сообщил местный профсоюз, свои обязанности перестали выполнять 90 процентов из трех тысяч служащих, которые обеспечивают деятельность нижней палаты парламента. Основное требование бастующих — повышение заработной платы.

### Потоп, хотя и не всемирный...

**Четыре миллиона гектаров сельскохозяйственных угодий в аргентинской провинции Буэнос-Айрес оказались полностью затопленными в результате небывалого наводнения, вызванного непрекращающимися уже два месяца ливневыми дождями.**

Как сообщили в столице представители местных властей, материальный ущерб достигает полумиллиарда долларов. 18 округов провинции Буэнос-Айрес объявлены зоной бедствия.

Евгений АЛЕКСЕЕВ.

### А у нас бы — редактора в "отставку"

**Государственный министр Андреас Андрианопулос — один из ключевых членов правительства Греции — подал прошение об отставке, и его тут же подписал премьер-министр Константинос Мицотакис.**

Такой шаг министр, "курировавший", в частности, телевидение и газеты, был вынужден сделать после обвинений в "попустительстве" средствам массовой информации, "раздувающим" скандал с подслушиванием телефонов.

### Не забудьте включить телевизор...

**О чем пишут в "Народную газету"? Кто и с какой целью пытается навязать нам еще один государственный язык?**

Об этом пойдет интересный разговор в передаче Белорусского телевидения "Роднае слова". Включите свой телевизор в субботу, 15 мая, в 14.30, и вы не пожалеете.

### Позвони мне, позвони... По "вертушке"

**Высокие государственные чины республики, похоже, все более заинтересованы в прямых контактах с бизнесменами.**

Иначе ничем не объяснишь тот факт, что в кабинетах президента Союза предпринимателей Беларуси Владимира Карягина и главы Союза предпринимателей и арендаторов Макса Кунявского совсем недавно установлены аппараты правительственной связи. Причем, как заметил на последней пресс-конференции В.Карягин, "в последнее время звонят все чаще..."

Ирина ЛЕВШИНА.

### Вот так поиграли детишки!

**Главврач СЭС Октябрьского района Минска Юрий Козлов все-таки подписал на днях постановление о выселении жильцов из общежития, в котором были обнаружены пары ртути.**

Прошло почти две недели с того дня, как дети разлили там ртуть. В штабе гражданской обороны Октябрьского района нам сообщили, что анализ пробы грунта можно получить только через семь дней. В то же время в некоторых комнатах общежития, по последним данным, обнаружено превышение предельно допустимых концентраций ртути в 2—3 раза.

Виктор АНАТОЛЬЕВ.

### Не подали голоса

**Пассивность избирателей помогла бывшему директору совхоза "Заднепровский" Оршанского района Ю.Савицкому остаться в составе областного Совета, несмотря на то, что против его отзыва из депутатского корпуса высказалось всего 37 человек из 2010 голосовавших.**

Столь значительный перевес противников Савицкого, однако, не позволяет лишить его мандата, поскольку более половины избирателей округа вообще не участвовали в голосовании.

Сергей БУТКЕВИЧ.

### Убил "дед" деда...

**Совсем немного не дослужив до конца армейского срока, сменил казарму на тюремную камеру призванный из Городокского района Эдуард К.**

Пенсионер Владимир Ш., вступившийся за односельчанина, на котором сбежавший из армии "воин" показывал силу своих кулаков, получил от распоясавшегося служивого смертельный удар ножом. Преступник самовольно покинул место службы на Дальнем Востоке якобы из-за невыносимой "дедовщины", хотя сам, как оказалось, четырежды сидел на "губе" за побои, нанесенные офицерам.

Сергей СЕРГЕЕВ.

### Был "Океан" — стал "Бабилон"

**В Санкт-Петербурге открыт первый европейский супермаркет известной фирмы "Бабилон".**

Он предлагает горожанам продукты питания за рубли по ценам более высоким, чем в киосках, но меньшим, чем в коммерческих салонах. Помещением для супермаркета послужило здание универсама "Океан", купленное на аукционе за 2 миллиарда рублей.

Михаил КАРЧИК.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.

*Пазіцыя*

# Ці падтрымліваеце вы нейтралітэт Беларусі, які прадугледжвае адмаўленне ад уступлення рэспублікі ў ваенныя і ваенна-палітычныя саюзы?

## Адказваючы на гэтае пытанне, наш народ будзе сапраўды вырашаць лёс сваёй Айчыны

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Паважаныя суайчыннікі!**

**Сітуацыя дыктуе неабходнасць звярнуцца да вас, да вашага розуму, да вашай разважлівасці. Давайце адкінем ідэалагічныя прыхільнасці, камандную аддадзенасць і амбіцыёзнасць і памяркуем пра лёс нашай Айчыны. Пра лёс Беларусі, якой гісторыя прадаставіла шанц стаць самастойнай дзяржавай, здольнай клапаціцца пра заможнасць сваіх грамадзян, быць гасціннай да сяброў з замежжа.**

### 1. Выбар шляху, або як не згубіць Беларусь

У міжнародных адносінах зараз адбываецца карэнны зрух, змяняюцца фактары, ад якіх залежыць трываласць і гістарычная перспектыва любой краіны. Раней месца дзяржавы ў свеце вызначалася перш за ўсё яе ваеннай сілай, сёння — здольнасцю да стабільнага эканамічнага развіцця, якасцю прыроднага асяроддзя, інакш кажучы — узроўнем яе экалагічнай бяспекі, тым, як дзяржава здольна гарантаваць асноўныя правы сваіх грамадзян.

Беларусь упершыню набыла гістарычную магчымасць пазбавіцца ад фатальнай ролі быць фарпостам і полем бою для высвятлення адносін іншых дзяржаў. Цана, якую ў мінулым плацілі беларусы за чужыя інтарэсы, вымяралася тысячамі і мільёнамі жыццяў. Трагедыя другой сусветнай вайны дагэтуль застаецца ў памяці кожнай беларускай сям'і, балюча закрануў нас і цяжкі афганскі сіндром. Менавіта таму сваю незалежнасць беларускі народ цесна ўвязвае з міратворчымі імкненнямі.

Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, прынятая 27 ліпеня 1990 года, была крыкам душы, які адначасова вырваўся з вуснаў і камуністаў, і апазіцыі, і тых, хто не вызначыў сваю палітычную прыхільнасць. Яна азначыла мэтавую знешнепалітычную накіраванасць рэспублікі: стварэнне нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы. Стратэгічны курс знешняй палітыкі рэспублікі — няўдзел ва ўзброеных канфліктах (войнах), у ваенных і ваенна-палітычных саюзах — быў пакладзены ў аснову дактрыны нацыянальнай бяспекі, якая прадугледжвае "дастатковасць абароны, суадноснай з узроўнем ваеннай пагрозы..."

На момант прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце імкненне да статуса нейтральнай дзяржавы было ўсяго толькі заявай аб палітычных намерах. Але пасля таго, як дакументу ў жніўні 1991 года быў нададзены статус Канстытуцыйнага закона, гэта імкненне ператварылася ў фундаментальны прынцып. Такая пазіцыя была станоўча ўспрынята і сусветным супольніцтвам.

Наша рэспубліка, па сутнасці, мае справу з цалкам вызначаным, добраахвотна ўзятым на сябе міжнародным абавязацельствам будаваць нейтральную дзяржаву. У сучасным міжнародным праве дастаткова выразна праглядаюцца імператыўныя палажэнні, у сілу якіх дзяржава не мае права адвольна мяняць сваю палітыка-прававую арыентацыю адносна сусветнага згуртавання без вельмі важкіх прычын, **без карэннага змянення абставін на міжнароднай арэне**. Іншымі словамі: усялякі перагляд канцэпцыі нацыянальнай бяспекі павінен быць звязаны са змяненнем узроўню ваеннай пагрозы.

Якія ж змены ў блізкім і далёкім замежжы выклікалі ініцыятыўныя прапановы па перагляду знешнепалітычнай арыентацыі Беларусі, у прыватнасці, па далучэнню да Дагавора аб калектыўнай бяспецы СНД?

Аналізуючы знешнепалітычнае становішча Беларусі, можна з упэўненасцю адзначыць, што яно фактычна не мела змен. Рэспубліка працягвае падтрымліваць добрасуседскія адносіны з Расіяй, Украінай, Літвой, Латвіяй і Польшчай. Ніводная з гэтых краін сёння не з'яўляецца агрэсіўным бокам у адносінах да Беларусі. Такім чынам, відавочна, што **знешнепалітычныя ўмовы** не з'яўляюцца прычынамі змянення ваенна-стратэгічнага курсу, і іх трэба шукаць **унутры рэспублікі**.

На думку партыі большасці ў парламенце, мэтазгоднасць удзелу Беларусі ў сістэме калектыўнай бяспекі Садружнасці абумоўліваецца шэрагам палітычных і эканамічных абставін. Яны сфармуляваны ў выступленнях Старшыні Савета Міністраў В.Кебіча, міністраў замежных спраў і абароны П.Краўчанкі і П.Казлоўскага, народных дэпутатаў А.Лукашэнкі, М.Грыба, Л.Прывалава, Дз.Булахава, Я.Бачарова, І.Цярэшкі, В.Сарокіна, В.Паўлава, В.Сінчыліна, І.Жыдзяляева, А.Авечкіна, М.Лакцюшына, А.Вайцешыка, М.Мачуленкі, П.Пракаповіча, А.Мардашова, А.Цішкевіча, Б.Гетца, Г.Казлова, кіраўнікоў прадпрыемстваў М.Лаўрыновіча, А.Санчукоўскага, В.Ганчарова. Давайце іх сістэматызуем і прааналізуем.

### 2. Аргументы: "за" і "супраць"

Усе аргументы "за" ўступленне Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі СНД можна ўмоўна падзяліць на тры групы: палітычныя, эканамічныя, ваенныя.

#### Палітычны аспект

**Аргумент 1**. "У міжнароднай практыцы дакладна не вызначаны статус нейтралітэту. Усе краіны, якія яго раней абвясцілі, імкнуцца ўступіць у тыя або іншыя ваенна-палітычныя блокі".

З гэтым нельга пагадзіцца. У свеце існуе некалькі мадэлей суверэнітэту, што дазваляе Беларусі распрацаваць свой, найбольш прымальны для інтарэсаў рэспублікі варыянт з улікам вопыту еўрапейскіх краін.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

### Аб адкрыцці дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Адкрыццё дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання адбудзецца 18 мая 1993 года ў 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### Да ведама народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь

Рэгістрацыя народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія прыбылі на дванаццатую сесію, будзе праводзіцца 17 мая 1993 года з 9 гадзін да 20 гадзін у Доме ўрада (фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).

*Напярэдадні*

## "Едзем у Маскву са стрыманым аптымізмам",

**—заявіў карэспандэнту Белінфарма член беларускай дэлегацыі старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па нацыянальнай палітыцы і пытаннях СНД Міхаіл Слямнёў.**

Паводле яго слоў, на маючай адбыцца 14 мая ў Маскве сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў прадугледжваецца разгляд пытанняў першага этапа эканамічнага саюзу (мытнага, цэнавага), паколькі астатнія "ў цэлым не гатовы". Чакаецца зацвярджэнне кіраўнікамі дзяржаў СНД парафіраваных раней пагадненняў аб кансультатыўна-каардынацыйным камітэце, выканаўчым сакратарыяце і пастаянных і паўнамоцных прадстаўніках у рабочых органах Садружнасці.

М.Слямнёў лічыць, што адзінага падыходу да ўсебаковага эканамічнага саюзу пакуль што няма. Ён таксама сказаў, што "на маючай адбыцца сустрэчы справа да ваеннага саюзу не дойдзе".

У ходзе сустрэчы, якая запланавана ў два этапы (у 15.00 — у Екацярынінскай зале адбудзецца пасяджэнне кіраўнікоў дзяржаў, а затым у "Прэзідэнт-атэлі" — дэлегацый), будуць выслуханы аргументы прэзідэнта А.Акаева аб прычынах паспешнага выхаду Кыргызстана з рублёвай зоны.

Ларыса КЛЮЧНІКАВА.

*Мы і свет*

## Нунцый Ватыкана ўручыў вярыцельныя граматы

**У нашай рэспубліцы, дзе значная частка веруючых — каталікі, з гэтага часу будзе прадстаўнік кіраўніка каталіцкай царквы папы рымскага Іаана Паўла II. Папскі нунцый, архіепіскап Габрыэль Мантальва ўручыў 12 мая вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславу Шушкевічу.**

Каменціруючы гэту падзею, Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што беларуская дзяржава з вялікай радасцю прыняла пасланніка папы.

— Мы перажылі ўжо тыя часы, калі веруючыя не маглі свабодна вызнаваць рэлігію. Больш таго, я думаю, што католікі ў Беларусі падвяргаліся ганенням нават больш, чым у іншых цывілізаваных краінах. Але адносіны веруючых і дзяржавы ў нас узаконены, і гэты закон паважае ўсіх грамадзян у рэспубліцы ў аднолькавай меры і незалежна ад іх веравызнання. Мы падтрымліваем як каталіцкую царкву, так і альтэрнатыўныя веравызнанні і лічым разумным узаемадзеянне ўсіх людзей, якія жывуць на Беларусі.

Станіслаў Станіслававіч выказаў падзяку за добрыя пажаданні незалежнай рэспубліцы, якія перадаў Габрыэль Мантальва ад імя кіраўніка каталіцкай царквы. Ён таксама запэўніў папскага нунцыя, што зробіць усё неабходнае для эфектыўнай і плённай работы першага прадстаўніка Ватыкана ў суверэннай Беларусі.

Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, Белінфарм.

Мінск.

*Суд идет...*

## Молчи, депутат! Не высовывайся, газета!

**В народном суде Центрального района Гомеля закончился многодневный процесс по иску профессора Ленгфельдера из Германии к народному депутату Республики Беларусь Инессе Дробышевской и газете "Гомельскія ведамасці" о защите чести и достоинства.**

24 октября прошлого года газета опубликовала статью Дробышевской "Поездка группы фонда "Помощь детям Чернобыля" на Международный конгресс жертв радиации была туристической" и редакционный комментарий к ней. В статье говорилось и о выступлении на конгрессе профессора Ленгфельдера, который тесно сотрудничает с фондом. Недоумение у народного депутата вызвали, в частности, сообщение о поставке в Гомельский эндокринологический диспансер оборудования на 2 млн. марок, позиция профессора по поводу оздоровления за рубежом детей из пострадавших от радиации районов, а также прагматический подход ученых Запада к чернобыльским проблемам. "...Все потихоньку на Западе, — писала Дробышевская, — стараются о Чернобыле умалчивать. Умалчивать в плане оказания реальной помощи. Научную среду интересуют факты. Она их набирает. И только. В этом прагматическом подходе я подозреваю и профессора Ленгфельдера". Но наиболее тяжкой и злостной клеветой Эдмунд Ленгфельдер посчитал редакционную приписку о фонде:"... Эта коммерческая структура — Гомельский фонд "Помощь детям Чернобыля"— ... срослась с такими же коммерческими структурами на Западе..." Дескать, этим самым газета делает широко известным, что институт радиобиологии им. Отто Хуго, который Э.Ленгфельдер представляет, является коммерческой структурой.

По поводу иска в суде были заслушаны многие участники конгресса в Берлине: народный депутат Республики Беларусь Леонид Зверев, доцент Минского института иностранных языков Александр Букаев, председатель Совета объединения инвалидов Чернобыля Республики Беларусь Владимир Каменков, доцент Минского педагогического института Ирина Грушевая и другие.

Суд в конце концов определился, частично удовлетворив иск Э.Ленгфельдера. Народному депутату Инессе Дробышевской причитается возместить моральный и имущественный ущерб в сумме 98 тысяч рублей, газете "Гомельскія ведамасці" — 548 тысяч рублей. Это, конечно, меньше, чем требовал Ленгфельдер, — соответственно суммы в размере 5 тысяч и 50 тысяч немецких марок. Решение суда еще не вступило в силу. Предстоит разбирательство в вышестоящей инстанции, и мы подробно расскажем об этом беспрецедентном деле.

Анатолий ГОТОВЧИЦ.

*Официально*

## Три дня в Дели будут насыщенными

**Председатель Совета Министров Республики Беларусь Вячеслав Кебич прибыл 12 мая с официальным трехдневным визитом в индийскую столицу.**

В торжественной церемонии встречи высокого гостя на площади у президентского дворца Раштрапати Бхаван приняли участие премьер-министр Индии П.В.Нарасимха Рао, члены кабинета министров. В программе пребывания — встречи и переговоры с президентом, вице-президентом, премьер-министром, другими индийскими руководителями. По итогам визита предусмотрено подписать пакет документов, которые определят основные принципы двусторонних отношений и направления сотрудничества между Индией и Беларусью.

Сергей КАРМАЛИТО, корр. ИТАР—ТАСС.

*Почему я начинаю день с "Народной газеты"*



**Николай Ефимович Тихонов, пенсионер (г.Минск)**

Я лично выписываю "Народную" с первого дня ее выхода в свет. Буду выписывать и дальше. А как же иначе? Очень и очень интересная и нужная газета! Сколько в ней всевозможных рубрик! Можно и посмеяться, глядя на карикатуры художника Олега Попова. Так давайте же не ослаблять, а пополнять ряды ее подписчиков! "Народная" отблагодарит нас своими прекрасными материалами! В конце концов, кто мы есть? "Вышли мы все из народа, дети семьи трудовой", — как поется в песне. Значит, мы — народ, и газета "Народная" — это наша газета.

Народная газета

*Пазіцыя*

# Ці падтрымлівaeцe вы нейтралітэт Беларусі, які прадугледжвае адмаўленне ад уступлення рэспублікі ў ваенныя і ваенна-палітычныя саюзы?

## Адказваючы на гэтае пытанне, наш народ будзе сапраўды вырашаць лёс сваёй Айчыны

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Такая аўтарытэтная нейтральная дзяржава як **Швецыя** разумее пад нейтральным статусам палітыку "недалучэння да блокаў у мірны час з мэтай захавання нейтралітэту ў выпадку вайны". Гэта значыць, каб зберагчы сябе на працягу 180 гадоў ад усіх сусветных войнаў, пачынаючы ад войнаў Напалеона, Швецыя ўвесь гэты час **не ўваходзіла ні ў адзін ваенны саюз**. Варта адзначыць, што дзякуючы менавіта гэтаму яна змагла дабіцца выключнага эканамічнага і сацыяльнага росквіту.

Зразумела, што сама па сабе дэкларацыя нейтралітэту такога статусу краіне не надае. Ён павінен быць прызнаны міжнароднай супольнасцю, перш за ўсё вялікімі дзяржавамі і суседзямі. Формы пры гэтым могуць быць розныя. У выпадку Швейцарыі і Аўстрыі гэта зроблена ў міжнародных пагадненнях, якімі іх нейтралітэт гарантуецца афіцыйна. Нейтралітэт Швецыі — гэта нейтралітэт "дэ- факта", заснаваны на дакладна вызначанай волі, дастатковай абароне і практычным вопыце многіх дзесяцігоддзяў, якія даюць партнёрам і суседзям права верыць, што Швецыя хоча нейтралітэту і гатова яго бараніць.

Яшчэ адзін варыянт нейтралітэту — **фінскі**. Ён грунтуецца на заяве самой краіны і на прызнанні дзвюх вялікіх дзяржаў — СССР і ЗША.

Што да быццам бы маючага месца імкнення нейтральных дзяржаў да ўступлення ў ваенныя саюзы, то гэта не зусім так. **Швецыя, Фінляндыя і Аўстрыя** вядуць нялёгкія перамовы аб далучэнні да Еўрапейскай супольнасці. Усе гэтыя дзяржавы дамагаюцца асобага статусу для сябе ў пытаннях абароны і знешняй палітыкі. Урад Фінляндыі, напрыклад, настойвае на тым, што ў ЕС "Фінляндыя будзе працягваць сваю нейтральную палітыку, у аснове якой ляжыць няўдзел у ваенных блоках і абарона сваімі сіламі". Гэтак жа выказвае пазіцыю Швецыі яе міністр абароны: "Поўную адказнасць за абарону нашай краіны нясём толькі мы самі, і разам з тым мы не збіраемся абараняць нікога іншага, акрамя Швецыі". Нагадаю, гаворка ідзе аб уваходзе ў ЕС — саюз **эканамічны,** а не ваенны. Тым не менш, **Швейцарыя** нават не падпісала першага пагаднення толькі ў ЕС — аб стварэнні так званай еўрапейскай эканамічнай прасторы, а прадстаўнік Аўстрыі на перамовах заяўляе, што Аўстрыя і без ЕС выжыве.

Ды і наогул не трэба спяшацца перабольшваць тэмпы заходнееўрапейскай інтэграцыі. Па Маастрыхцкаму дагавору невядома, калі ён пачне дзейнічаць. Да таго ж у Францыі, якая была адным з найбольш заўзятых ініцыятараў ЕС, перамога на выбарах партый цэнтра і правых дае падставы чакаць ад новага ўрада імкнення да прыярытэту нацыянальных інтарэсаў над агульнаеўрапейскімі. Такім чынам, ніхто з сапраўды нейтральных дзяржаў не мае намеру на злом галавы бегчы пад абарону НАТА. Так, напрыклад, пры перамовах аб далучэнні да эканамічных аб'яднанняў прэм'ер-міністр **Швецыі** падкрэслівае: "гарантыі нашай бяспекі мы павінны захоўваць у сябе". **Швецыя** не мае намеру дапусціць на сваю тэрыторыю іншаземныя войскі і ваенныя базы, не ўдзельнічае ні ў якіх аператыўных ваенных планах на прылягаючых да яе тэрыторыях, не заключае ніякіх пагадненняў, якія б маглі прымусіць да ўдзелу ў ваенных дзеяннях, пачатых іншай краінай без яе згоды.

**Фінляндыя** вызначае свой нейтралітэт як "імкненне заставацца па-за супярэчнасцямі вялікіх дзяржаў". Яна праводзіць нейтральную палітыку ў ваеннай сферы, мэтай якой з'яўляецца "забеспячэнне тэрытарыяльнай еднасці Фінляндыі ў мірны час і ва ўмовах вайны; непрадастаўленне сваёй тэрыторыі іншай дзяржаве для агрэсіі супраць якой-небудзь трэцяй дзяржавы; захаванне існуючай у Фінляндыі палітычнай, эканамічнай і юрыдычнай сістэмы".

Аналагічныя прынцыпы маглі б быць закладзены ў падмурак канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Беларусі.

**Аргумент 2**. "Далучыўшыся да сістэмы калектыўнай бяспекі, Беларусь пойдзе да нейтральнасці шляхам Фінляндыі, якая таксама ў 1948 годзе заключыла Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе з Савецкім Саюзам".

Эканамічныя рэаліі ставяць Беларусь у становішча, пры якім яна проста абавязана мець асаблівы характар адносін з Расіяй. Такі ж , як у свой час мела Фінляндыя з СССР. Таму ў нас з Расіяй падпісаны цэлы пакет дакументаў, у тым ліку і Пагадненне аб каардынацыі дзейнасці ў ваеннай галіне, дзе падрабязна рэгламентаваны праблемы ўзаемных палітычных і матэрыяльна-тэхнічных абавязацельстваў. Нядаўняя ратыфікацыя Вярхоўным Саветам Расійскай Федэрацыі менавіта гэтага Пагаднення, а не Дагавора аб калектыўнай бяспецы, дазваляе выказаць меркаванне, што Расія мае намер будаваць свае адносіны з Беларуссю на двухбаковай, а не на шматбаковай аснове. Дарэчы, **Фінляндыя** была звязана з СССР таксама двухбаковымі абавязацельствамі, а **ў сістэму калектыўнай бяспекі Арганізацыі Варшаўскага дагавора не ўваходзіла.**

**Аргумент 3**. "Палітыка нейтралітэту прывядзе да самаізаляцыі Беларусі".

Свабода дзеянняў нейтральнай дзяржавы настолькі вялікая, што Фінляндыя і Швецыя ўдзельнічаюць не толькі ў палітычных, але і ў ваенных дзеяннях ААН. Нейтральны статус дапамагае ім узмацняць свой міжнародны аўтарытэт. А Швейцарыя, якая хоць і не з'яўляецца *членам ААН, трымае на сваёй тэрыторыі* шмат міжнародных арганізацый і такім чынам набыла выключную павагу ў свеце. Такое наўрад ці здарылася б, каб яна ўваходзіла ў нейкі ваенны блок.

**Аргумент 4**. "У перыяд перадзелу сусвету на сферы ўплыву, які адбываецца ў выніку распаду СССР, змянілася ваенна-палітычная сітуацыя ў Еўропе, узніклі ачагі напружанасці, ствараюцца новыя ваенныя структуры, ваенны патэнцыял Польшчы перамяшчаецца да межаў Беларусі, пашыраюцца сферы ўплыву НАТА і г.д. Таму ў Рэспубліцы Беларусь няма гарантый знешняй бяспекі".

Гаварыць сёння аб ваеннай пагрозе для Беларусі, ведаючы якую падтрымку аказвае ёй сусветнае супольніцтва, проста бессэнсоўна. Свае прапановы гарантый у дапамозе на выпадак агрэсіі нам ужо накіравалі Расія, Англія і ЗША.

На будучае ж трэба ўвязваць пытанні ратыфікацыі дагавораў аб скарачэнні звычайных узбраенняў у Еўропе і стратэгічных наступальных узбраенняў, аб статусе бяз'ядзернай дзяржавы з калектыўнымі гарантыямі бяспекі Рэспублікі Беларусь з боку Расіі і НАТО. Гэта — справа як Вярхоўнага Савета, так і МЗС.

Дзіўна, што сярод аргументаў у падтрымку неабходнасці падпісання Дагавора аб калектыўнай бяспецы з боку адказных армейскіх чыноў гучаць абвінавачванні ў адрас Польшчы. Маўляў, яна сцягвае войскі да межаў Беларусі і нібыта стварае пагрозу. Відаць, сёй-той забыўся, што ў час існавання Варшаўскага дагавора большая частка польскага войска знаходзілася на заходняй граніцы. Цяпер жа палякі імкнуцца размясціць свае арміі больш раўнамерна, пакінуўшы на захадзе каля 40 працэнтаў, у цэнтры і на ўсходзе — па 30 працэнтаў войскаў. На нечарговай 11 сесіі Вярхоўнага Савета прадстаўнікі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь бачылі ў Польшчы патэнцыяльнага праціўніка, а ўжо праз дзесяць дзён падпісалі з яе міністэрствам нацыянальнай абароны Пагадненне аб двухбаковых кантактах у ваеннай галіне на пяць гадоў.

**Аргумент 5**. "Наш нейтралітэт ніхто не прызнаў!"

Па-першае, нельга прызнаць тое, чаго няма. Па-другое, калі будзем так непаслядоўна сябе паводзіць, дык ніхто і не прызнае, бо прызнаваць не будзе чаго. І трэцяе: паслядоўнасць нашых крокаў да нейтралітэту і ў рэшце-рэшт яго дасягненне дасць падставы суседзям — і ў першую чаргу краінам — пастаянным членам Савета Бяспекі ААН — пацвердзіць такое прызнанне. Зразумела, што гэтаму павінна садзейнічаць і доўгатэрміновая асэнсаваная работа нашага дыпламатычнага корпусу.

### Эканамічны аспект

**Аргумент 6**. "Без далучэння да Дагавора аб калектыўнай бяспецы СНД немагчыма ўмацаванне эканамічнага саюза з Расіяй і іншымі краінамі СНД".

Па звестках з Міністэрства замежных спраў Расійскай Федэрацыі да любога рашэння нашага парламента па калектыўнай бяспецы ў Расіі аднесліся б з паразуменнем. У Маскве лічаць, што далучэнне да дагавора — унутраная справа кожнай дзяржавы. Нават калі б беларускі парламент прыняў адмоўнае рашэнне, эканамічнае супрацоўніцтва Расіі і Беларусі ўмацоўвалася б у рамках СНД і на падставе заключаных двухбаковых пагадненняў.

Хто ж з кіраўнікоў краін-стваральнікаў Садружнасці заяўляе, што не далучаючыся да калектыўнай бяспекі, Рэспубліка Беларусь губляе палітычны давер пры заключэнні эканамічнага Саюза? Ельцын? Вось яго словы: "Расія не ўмешваецца ва ўнутраныя справы Беларусі. Кіраўніцтва РФ не выстаўляе ў якасці абавязковай умовы эканамічнага саюза — саюз ваенны". Ці Краўчук, выклаўшы сваю канцэпцыю стварэння зоны бяспекі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе? Яе мэта — "запоўніць вакуум у гарантаванні бяспекі, які склаўся ў рэгіёне з-за геапалітычных змен, без арганізацыі якіх бы там ні было шматбаковых структур".

Дарэчы, Швейцарыя, Швецыя, а ў апошнія дзесяцігоддзі і Фінляндыя — невялікія дзяржавы, суразмерныя з Беларуссю — дзякуючы **менавіта свайму нейтралітэту** змаглі развіваць гандлёвыя сувязі з членамі розных блокаў і менавіта таму выбіліся ў лік найбольш развітых краін.

**Аргумент 7**. "Уваходжанне ў сістэму калектыўнай бяспекі дапаможа прамысловасці Беларусі выйсці з эканамічнага крызісу".

На гэты фактар спасылаюцца прадстаўнікі ВПК, якія звязваюць падпісанне дагавора з паляпшэннем эканамічнага стану сваіх прадпрыемстваў. Але рэчаіснасць сведчыць, што нават калі ўсе вайсковыя цэхі пачнуць працаваць на поўную магутнасць, народнай гаспадарцы Беларусі гэта будзе як, прабачце, мёртваму прыпарка. Бо нават у больш-менш стабільным 1991 годзе ВПК выконваў аб'ём работ на суму 8,5 мільярда рублёў, што складала ўсяго 11,9 працэнта ад аб'ёма агульнарэспубліканскай вытворчасці. Між іншым, на астатніх прамысловых прадпрыемствах сёння становішча не лепшае, чым у ВПК. З 1991 года аб'ём вытворчасці ў рэспубліцы знізіўся на 34 працэнты. Таму, каб выйсці з крызісу, нам трэба шукаць не ваенныя саюзы, а інтэнсіўна і рашуча праводзіць эканамічныя рэформы.

### Ваенны аспект

**Аргумент 8**. "За 70 год склалася надзейная сістэма бяспекі і не трэба яе разбураць".

Яна ўжо разбурана. Дзе Варшаўскі дагавор? Дзе Заходняя група войск, Прыбалтыйская і Закаўказская ваенныя акругі? Расія вымушана гэту сістэму ствараць занава.

**Аргумент 9**. "Юнакі-беларусы не будуць ваяваць і гінуць за межамі рэспублікі, бо Дагавор аб калектыўнай бяспецы Беларусь падпіша з агаворкамі".

Вельмі шкада, што большасць нашых парламентарыяў ухапілася менавіта за гэтыя агаворкі, як за выратавальную саломінку. Нават не ўлічылі, што міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь Л.Дашук адназначна заявіў: "Дагавор адкрыты для далучэння ўсіх зацікаўленых дзяржаў, **падзяляючых яго мэты і прынцыпы** (арт.10 Дагавора). Такім чынам, далучэнне да Дагавора з якімі-небудзь агаворкамі выключана". Праўда, можна ўнесці папраўкі, але ўжо пасля падпісання рэспублікай дакумента і са згоды ўсіх удзельнікаў (ч.II, арт.10 Дагавора). Як бачым, калі тая ж Арменія, якая, дарэчы, адной з першых ратыфікавала дагавор, скажа "не" беларускім агаворкам, мы будзем вымушаны пасылаць нашых хлопцаў ваяваць за чыесьці інтарэсы. А гарачых кропак сёння хапае. Толькі пачынаючы з 1991 года на тэрыторыі былога СССР у міжнацыянальных канфліктах загінула людзей ў адзінаццаць разоў болей, чым за 10 гадоў вайны ў Афганістане!

Некаторыя, у тым ліку прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў рэспублікі прапаноўваюць падпісаць Дагавор і не выконваць, а назіраць да моманту яго ратыфікацыі, як усё абернецца. Крывадушша нельга ўзводзіць у ранг дзяржаўнай палітыкі! Няма такой практыкі ў свеце! Любая дзяржава, якая падпісала міжнародны дагавор, абавязана выконваць усе яго артыкулы. Не будзе — дык і адносіны да яе будуць адпаведныя. Можна, напрыклад, успомніць, што і Дагавор СНУ-1 выконваўся цалкам яшчэ да ратыфікацыі.

Дарэчы, Дагавор аб калектыўнай бяспецы СНД ужо выконваецца, хаця не ратыфікаваны большасцю дзяржаў. У ваенных дзеяннях на тэрыторыі Таджыкістана прымаюць удзел войскі іншых краін — былых рэспублік СССР. Нядаўна рашэнне накіраваць туды сваіх вайскоўцаў прыняў і Казахстан. На апошняй сустрэчы кіраўнікоў урадаў СНД 28 красавіка ў Мінску заяўлена аб гатоўнасці Беларусі накіраваць у Таджыкістан цяжкую ваенную тэхніку. Не хапае, відаць, толькі беларускіх хлопцаў.

**Аргумент 10**. "У рамках СССР склаўся адзіны ВПК, які забяспечвае ўсе краіны зброяй і запчасткамі".

Першы аспект — забеспячэнне беларускай арміі зброяй і запчасткамі. Прыгадаем, што 20 ліпеня 1992 года паміж Беларуссю і Расіяй заключаны дагавор аб каардынацыі дзейнасці ў ваеннай галіне, які прадугледжвае забеспячэнне ўзаемаразмяшчэння заказаў міністэрстваў абароны краін і меры па іх выкананню. Тут ёсць толькі праблема цаны. Наўрад ці яна будзе істотна ніжэй для беларускай арміі. Іншая справа, калі яна зноў стане Беларускай ваеннай акругай Расійскай арміі.

Нагадаю яшчэ, што ў Міністэрства абароны Беларусі ёсць усе магчымасці больш шырока наладжваць супрацоўніцтва ў гэтым плане з іншымі краінамі. Сведчаннем таму з'яўляецца нядаўняе падпісанне Пагаднення з міністэрствам нацыянальнай абароны Рэспублікі Польшча аб двухбаковых кантактах у ваеннай галіне, якое прадугледжвае ўзаемадзеянне па пытаннях, звязаных з узаемнымі пастаўкам ваеннай тэхнікі, запчастак і ўзбраення.

Другі аспект — утапічная ідэя атрымання шматлікіх ваенных заказаў. 80 працэнтаў ВПК былога СССР знаходзіцца на тэрыторыі Расіі і толькі прыкладна 4 працэнты — у Рэспубліцы Беларусь. Ва ўмовах рэзкага скарачэння і канверсіі малаверагодна, што наш "Інтэграл" атрымае шырокія заказы, калі закрываюцца цэхі расійскага прадпрыемства "Алмаз". Расійскі ВПК сам у найцяжэйшым становішчы, бо асігнаванні на закупку ваеннай тэхнікі і ўзбраенняў скараціліся на 68 працэнтаў. Не будзе больш і таннай нафты, і іншай сыравіны.

Спроба такім чынам уратаваць беларускі ВПК — шлях у нікуды для той сацыяльна арыентаванай эканомікі, якую мы яшчэ толькі імкнёмся стварыць. Кошт затрат на адзінку тавару нашай абаронкі, як паказваюць падлікі, у перакладзе на сусветныя цэны будзе намнога вышэй, чым у іншых краінах. Прыйдзецца гандляваць са стратамі, пакрываючы затраты на вытворчасць узбраенняў за кошт аховы здароўя, адукацыі, сацыяльнай абароненасці насельніцтва. Без канверсіі, рэканструкцыі — эканоміка асуджана. Гэта цудоўна разумеюць у Расіі, толькі, на жаль, не ў нас. Саветнік прэзідэнта РФ па пытаннях абароннай прамысловасці Міхаіл Малей заявіў (за чатыры дні да расійскага рэферэндуму!): "Не можа быць размовы аб аднаўленні ранейшага ВПК ... Большасць дырэктараў абаронных прадпрыемстваў ужо не лічаць, што ўсё разбурылася і ў новых умовах выжыць немагчыма, — застаецца альбо гінуць, альбо змагацца супраць рэформ. **Большасць сёння разумее, што жыць па-новаму цяжка, але можна, і што іншага шляху няма".**

**Аргумент 11**. "Беларусь не зможа развіваць свае ваенныя навукі".

— Зразумела, Стратэгічную Абарончую Ініцыятыву (САІ) мы не пацягнем, але ваенную дактрыну і статуты такая колькасць генералаў і старшых афіцэраў, як у нас, павінна адолець. Ды і хто забараняе Міністэрству абароны супрацоўнічаць у гэтым плане з іншымі краінамі. Практычна ўсе дамоўленасці якія ім заключаюцца, маюць палажэнні звязаныя з развіццём навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ, абменам ваенна-тэхнічнай і ваенна-прававой інфармацыяй.

**Аргумент 12**. "Двух вайсковых вучылішчаў недастаткова для падрыхтоўкі афіцэраў".

Неабходна каапeрацыя. Напрыклад, мы рыхтуем зенітчыкаў для Расіі і Украіны, яны — лётчыкаў для нас. Такія падыходы ўжо і пачало выпрацоўваць наша Міністэрства абароны.

### 3. "Змяніць твар" і "наперад — у мінулае"?

Як маглі забыцца ініцыятары далучэння да Дагавора аб калектыўнай бяспецы, што асноўныя прынцыпы гэтага дакумента поўнасцю адлюстраваны ў Пагадненні аб паўнамоцтвах вышэйшых органаў СНД па пытаннях абароны? Яно падпісана Беларуссю з наступнай заўвагай: "Для Рэспублікі Беларусь на пераходны перыяд — два гады". Гэтае Пагадненне дзейнічае ў адносінах Беларусі да 20 сакавіка 1994 года. Яно, па сутнасці, з'яўляецца тым жа Дагаворам аб калектыўнай бяспецы, толькі больш падрабязна рэгламентуючым узаемныя абавязкі дзяржаў.

Больш таго, Пагадненне аб паўнамоцтвах вышэйшых органаў СНД не супярэчыць артыкулу 10 Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. Таму што дасягненне нейтральнага статусу магчыма толькі пасля поўнага вываду расійскіх ядзерных сіл з беларускай тэрыторыі. А супраць такога вываду адкрыта ніхто не выступае. Ва ўсякім выпадку, пакуль! Ці, можа, гэта будзе наступны крок, услед за далучэннем да Дагавора аб калектыўнай бяспецы?

Павінен нагадаць: фармулёўка Дэкларацыі "ставіць мэтай зрабіць рэспубліку нейтральнай дзяржавай" азначае, што органы ўлады і кіравання бяруць палітычны абавязак зрабіць шэраг паслядоўных крокаў **у напрамку** дасягнення нейтралітэту. Ужо створаны прававыя механізмы, накіраваныя на здзяйсненне абвешчанага намеру. Была прынята Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь (пастанова Вярхоўнага Савета ад 16 снежня 1992 года).

Параўнальны аналіз Ваеннай дактрыны і Дагавора аб калектыўнай бяспецы сведчыць аб наступным: артыкул 4 Дагавора прадугледжвае, што калі адна з дзяржаў-удзельніц падвяргаецца агрэсіі з боку якой-небудзь дзяржавы або групы дзяржаў, то гэта будзе разглядацца як агрэсія супраць усіх дзяржаў-удзельніц Дагавора. Ў выпадку агрэсіі супраць любой з дзяржаў-удзельніц усе астатнія дзяржавы—удзельніцы акажуць неабходную дапамогу, **у тым ліку ваенную.**

Гэты артыкул адназначна не адпавядае наступным палажэнням Ваеннай дактрыны: "Рэспубліка Беларусь ... не ўдзельнічае ў ваенных канфліктах паміж іншымі дзяржавамі". Яна можа ў мэтах спынення агрэсіі выкарыстоўваць прымусовыя меры: разрыў дыпламатычных адносін; поўны або частковы разрыў эканамічных сувязей; удзел у дэманстрацыях, блакадах і іншых акцыях пад эгідай ААН.

Чаму ж так спяшаюцца прыхільнікі Дагавора аб калектыўнай бяспецы? Прычына можа быць толькі адна. З цягам часу яна будзе станавіцца ўсё больш відавочнай: **прыкрыццё адсутнасці дакладнага плана структурнага рэфармавання эканомікі,** у тым ліку і буйнамаштабнай канверсіі, настальгія па мінуламу, калі ўласную бяздзейнасць можна было спісаць на імперскі "Цэнтр", жаданне схавацца за "старэйшага брата".

Многім сёння не да суверэнітэту, не да нейтральнасці, наогул — не да распрацоўкі стратэгіі, доўгатэрміновай палітыкі. Заклінанні тыпу "вярніце каўбасу саюзнага "разліву" могуць увесці (і час ад часу ўводзяць!) у зман людзей працы, людзей шчырых і сумленных. Гэта прыёмы той самай прапаганды, якая шмат гадоў "эфектыўна" ўводзіла ў зман і прывяла ў тупік. Выхад з яго — правядзенне **самастойнай** палітыкі — задача значна больш цяжкая і адказная.

Відавочна зараз, што альтэрнатывы СНД няма. Значыць, для пераадолення крызісу, спаду вытворчасці трэба дабівацца выканання заключаных у рамках Садружнасці эканамічных пагадненняў, мацаваць новыя гарызантальныя сувязі, ствараць мытныя саюзы, фарміраваць эканамічную прастору, даць магчымасць дзейнічаць створаным структурам: міждзяржаўным саветам, камітэтам, Міждзяржаўнаму банку, Эканамічнаму суду. Трэба ісці наперад, а не назад. Калі ж дзеля асабістых кан'юнктурных жаданняў пэўных сіл мы пойдзем іншым шляхам, то згубім палітычны давер не толькі краін — нашых суседзяў, але і сусветнай супольнасці.

На жаль, жаданне "змяніць твар" перамагае. Што там умацаванне дэмакратыі, нацыянальнае адраджэнне, стварэнне прававой дзяржавы, калі мы можам з лёгкасцю адмовіцца ад абвешчаных у Канстытуцыйным законе прынцыпаў?! Мабыць, лепш адразу адмовіцца і ад суверэнітэту? Быць сатэлітам няхай крыху і крыўдна, але менш клопатна. Узаконім таталітарную эканоміку, мілітарысцкі бюджэт, забудземся пра канверсію, прыватызацыю, скончым з рэформамі... І — "наперад — у мінулае" на разваленай імперскай калясніцы.

Сорамна, што прыходзіцца сутыкацца з наяўнай дэвальвацыяй нашай дзяржаўнай палітыкі. Сорамна перад будучым, якога можа і не быць.

Пакуль не зроблена ніякага больш-менш сур'ёзнага параўнальнага аналізу "выгод", якія прынясе Рэспубліцы Беларусь далучэнне да сістэмы калектыўнай бяспекі. Адмаўляючы палітыку нейтралітэту, нам прапануюць эксперымент чакання і надзеі. Эксперымент ілюзорны, а страты відавочныя: звужэнне сферы палітычнага дзеяння; страта знешнепалітычнага даверу да рэспублікі і, як вынік, стымуляцыя дзяржаў, якія маюць межы з Беларуссю, да стварэння аналагічных блокаў і саюзаў.

### 4. Замест заключэння

Дагавор аб калектыўнай бяспецы — пачатак стварэння новага ваенна-палітычнага блоку. Гэта выдатна разумеюць нават тыя, хто сваю прыхільнасць да ваеннага саюза абгрунтоўвае і апраўдвае тым, што, маўляў, не можа быць знака роўнасці паміж гэтым Дагаворам і ваенным саюзам. На гэтай няпэўнай падставе сцвярджаецца, што нібы Беларусь ніякім чынам не парушыць свайго заяўленага курсу на нейтралітэт, далучыўшыся да сістэмы калектыўнай бяспекі.

Гульня ў дэфініцыі — адзін з прыёмаў мінулай прапаганды. Але, здаецца, нават у часы панавання адной ідэалогіі характарыстыкі НАТА як "агрэсіўнага ваеннага блоку" і Варшаўскага дагавора як "мірнай сістэмы калектыўнай бяспекі" мала каго ўводзілі ў зман.

Новы ваенна-палітычны саюз ствараецца на руінах былога Варшаўскага дагавора. Усе шэсць краін, якія падпісалі ў маі 1992 года Ташкенцкае пагадненне, бачаць у падключэнні да яго канкрэтныя ваенна-стратэгічныя выгады. Арменія і Таджыкістан, ахопленыя полымем вайны, разлічваюць і заклікаюць іншых удзельнікаў Дагавора да падтрымкі і ўмяшання ў канфлікты. Узбекістан і Кыргызстан, ля граніц якіх бушуе грамадзянская вайна, занепакоены, як бы полымя не перакінулася на іх тэрыторыю. Казахстан пасля распаду Саюза сур'ёзна заявіў аб сваім імкненні іграць першую скрыпку ў рэгіёне Цэнтральнай Азіі.

Для Беларусі рабіць стаўку на сілу, імкнуцца дэманстраваць мускулы — гэта азначала б не ўмацаванне бяспекі, а, наадварот, пагаршэнне адносін з суседзямі, рост ваенных расходаў, зніжэнне і без таго невысокага ўзроўню жыцця людзей. Што нясе народу гонка ўзбраенняў, у якую, не выключана, у перспектыве будзе ўцягнута Беларусь у выпадку ўступлення ў ваенна-палітычны блок, — наш народ ведае не па чутках. За сучасныя самалёты, танкі і ракеты, якія меў былы Савецкі Саюз, людзі плацілі тым, што не мелі тых сучасных кватэр, аўтамабіляў, адзення, прадуктаў, якія мелі іншыя еўрапейцы. Мы — частка той Еўропы, якая ўласным вопытам выпакутавала вартыя цывілізаванага чалавека ўяўленні аб такім уладкаванні свайго дома, калі, каб быць упэўненым у суседзях, не ператвараюць гэты дом у артылерыйскі склад, а знаходзяць з суседзямі агульную мову. Еўрапейская краіна, якая адмаўляецца ад нейтральнага статуса і ўступае ў ваенны блок з краінамі рэгіёнаў, якія патэнцыяльна цяжарны новымі канфліктамі, — не можа выглядаць у вачах цывілізаванай супольнасці самастойнай і паслядоўнай.

Як паставіцца да рэзкай змены знешнепалітычнага курсу большасць народа Беларусі? Уся папярэдняя гісторыя вучыла цярплівых і самаахвярных беларусаў, што пратэктарат больш магутных суседзяў — зусім не гарантыя спакою і бяспекі. Наша залежнасць і несамастойнасць станавіліся пастаяннымі прычынамі нашай трагедыі.

Прыхільнікі ваеннага блоку пераконваюць, што абставяць падпісанне Дагавора Беларуссю шэрагам агаворак — і беларускія хлопцы ніколі не будуць служыць за межамі сваёй краіны... Наіўныя сцвярджэнні накшталт таго статута, з якім сунуцца ў чужы манастыр.

Калі пытанне на рэферэндуме аб далучэнні да сістэмы калектыўнай бяспекі будзе пастаўлена канкрэтным чынам, без казуістыкі і заблытвання, — няма сумнення, што людзі выкажуцца за нейтральную Беларусь, за "масла замест гармат".

Ініцыятары ваеннага саюза ў якасці галоўнага аргумента на карысць далучэння краіны да Дагавора аб калектыўнай бяспецы вылучаюць прыхільнасць Расіі, магчымыя паблажкі з яе боку як падзяку за ўступлівасць і ўшчамленне ўласнага суверэнітэту. Але Расія не абяцае і ў цяперашніх умовах не можа абяцаць значных субсідый у эканоміку нават сваіх самых блізкіх саюзнікаў. Расія не можа выконваць ролю былога СССР і браць на ўтрыманне цэлыя краіны. Ілюзіі і самападман, якімі цешаць сябе тыя, хто не бачыць будучыню Беларусі інакш як звязаную адным бікфордавым шнурам з Расіяй і Цэнтральнай Азіяй, — могуць дорага каштаваць нашай краіне і народу. Выбіраючы паміж суверэнітэтам і таннай нафтай і аддаючы перавагу нафце, мы лёгка можам згубіць першае і не атрымаць другога.

Расія была, ёсць і, я перакананы, будзе заставацца галоўным эканамічным партнёрам Беларусі. Нас звязваюць і робяць узаемазалежнымі мільёны сувязей, — не толькі гаспадарчых, — культурных, гістарычных, этнічных, асабістых. Рваць іх было б вялізнай памылкай. І ніхто на Беларусі не выступае супраць дружалюбных і раўнапраўных адносін з Расіяй. Але няўжо абавязковым працягам гэтых цесных узаемаадносін павінен стаць "шлюб па прымусу", на якім да таго ж зусім не настойвае другі бок?

Сілы, якія хочуць захаваць за Беларуссю статус фарпоста адной сістэмы і стратэгічнага плацдарма другой, ставяць новую перашкоду на шляху краіны ў дэмакратычную еўрапейскую супольнасць. Па сутнасці, ідзе выпрабаванне нацыі на трываласць: ці здольна яна захаваць свой суверэнітэт, ці варта яна незалежнай краіны?

У Беларусі застаюцца выдатныя шанцы на тое, каб , умацоўваючы эканамічнае супрацоўніцтва ў рамках СНД, не рабіць ні кроку назад у сваім імкненні да нейтралітэту. Беларусь залішне малая для таго, каб шукаць зоны стратэгічных інтарэсаў за тысячы кіламетраў ад сваіх граніц, і дастаткова вялікая, каб мець права самастойна і дэмакратычна вызначыць свой лёс, гарантаваць мір і спакой кожнаму свайму грамадзяніну.

*В двух словах*

## Служба пашет!

**137 инвалидов и престарелых жителей райцентра взяла под свою опеку служба помощи на дому, созданная при Ельском райсобесе.**

Одиноким и немощным людям оказывается помощь в доставке продуктов питания, лекарств, уборке квартир. При необходимости работники службы организовывают даже обработку приусадебных участков.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

## ...Это — плач сердец наших

**Установить на территории области все места массового уничтожения евреев во время войны, создать каталог старых национальных могильников и церквей — такую задачу поставили перед собой активисты Витебского общества любителей еврейской культуры.**

Для начала создан комитет по благоустройству Старо-Улановичского кладбища в Витебске. Сбор средств организован в банке и городской синагоге.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

## Крепость осаждают вандалы

**С первых теплых дней подвергается непрекращающимся атакам легендарная Брестская крепость.**

Беззастенчиво воруются с цветников редкой красоты розы. Задержанные последними три жителя Волынщины и учащийся местного ПТУ уносили их мешками. Другой объект повышенного внимания "посетителей" — прожектора системы освещения и декоративной подсветки. А девятиклассник одной из брестских школ застукан в музее крепости при изъятии со стенда уникальной медали. Что же до разбиваемых в старых казармах стекол и отрываемых от гранита Вечного огня букв текста, то участники этих акций отличаются от тех, первых, отсутствием разве что корысти, но никак не кощунства.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

## Дружили физик с лириком...

**Своего рода экзамен сдали недавно преподаватели факультета белорусской филологии, открывшегося прошлой осенью в Витебском педагогическом институте.**

В сотрудничестве с коллегами-естественниками ученые-лингвисты подготовили и выпустили общим 10-тысячным тиражом сборники школьных задач по физике на белорусском языке, пособия и белорусско-русские словари по различным предметам для вузов и средних учебных заведений. Некоторым молодым филологам эта работа, возможно, послужит ступенькой на пути к диссертации: институт нынче открыл аспирантуру.

**Сергей ВИТЕБСКИЙ.**

## За сенсацыяй — гіперінфляцыя?

**Нядоўга працягвалася адносна "дзелавое зацішша" на Беларускай фондавай біржы.**

На праведзеных днямі таргах тут зафіксавана сенсацыйная здзелка. Імгненны ўзлёт курсу каштоўных папер ЗША адносна айчынных грошай зноў перавысіў усе чаканні — вэксаль на абавязацельствы ЗША на суму 214 тысяч "зялёных" адышоў да пакупніка па цане 1550 рублёў за адзін долар.

Не адстае па хуткасці і рост працэнта на крэдыты Нацыянальнага банка рэспублікі. Максімальны працэнт, што, дарэчы, таксама стала сенсацыяй, быў прапанаваны за 100-мільённы крэдыт і склаў 241 працэнт. Усяго ж было прададзена крэдытных рэсурсаў на агульную суму 795 мільёнаў рублёў.

Мяркуючым па ўсім, у пакупнікоў каштоўных папер ужо няма сумненняў у тым, што далейшы рост інфляцыі цалкам апраўдае сённяшнія сенсацыйныя па кошце здзелкі.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ,**
**Белінфарм.**

*Ваша здароўе*

## Дыхаць стане лягчэй

**Новая бальніца ўвайшла ў строй у Кажан-гарадку Лунінецкага раёна.**

Тут абсталявана так званая галакамера, якая дае магчымасць з поспехам лячыць астму, бранхіты, іншыя віды лёгачных захворванняў. Для жыхароў раёна, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, гэта вельмі дарэчы.

*Улыбнемся с художником?*

ПЕРЕДАЙТЕ В КОНЕЦ ОЧЕРЕДИ, ЧТО «ПРАВ ЧЕЛОВЕКА» НА ВСЕХ НЕ ХВАТИТ!..
КНИГИ
Сегодня в продаже
ПРАВА ЧЕЛОВЕКА
ПРАВА ЧЕЛОВЕЧЕСКОГО ФАКТОРА

ТРИ КОРОЧКИ ХЛЕБА!
ЧИТАТЬ УМЕЕШЬ, НЕУЧ?..
ХЛЕБ
ПРЕДЪЯВИТЕ ПАСПОРТ

Рисунки Олега ПОПОВА.

